Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Зьмітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 30 сакавіка 1999 г. № 34 (565) Кошт свабодны

## Пазьняк змагаецца з жанчынамі

**Як нам стала вядома, нядаўна старшыня БНФ Зянон Пазьняк прыслаў у Мінск факс, у якім патрабаваў выключыць са складу Сойма БНФ двух сябраў — Таццяну Ваніну і Юлію Чыгір, жонку М.Чыгіра.**

Як паведаміў нам намеснік старшыні БНФ Сяргей Папкоў, Таццяна Ваніна і Юлія Чыгір цяпер працуюць «на іншую партыю» — яны падтрымліваюць кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра. Таму іх будуць выключаць на наступным паседжанні Сойма БНФ — прэзідыума, які складаецца з 65 чалавек. Паседжанне прызначанае на 10 красавіка.

Па словах Таццяны Ваніной, яна прыняла рашэнне працаваць у камандзе Чыгіра яшчэ ў сярэдзіне снежня, калі Пазьняк яшчэ толькі вагаўся, ці балатавацца ў прэзідэнты. На яе думку, Пазьняка ў эміграцыі кепска інфармуюць, і ён не ведае, што на самой справе адбываецца ў Беларусі.

Цікавы момант: і Т.Ваніна, і Ю.Чыгір увайшлі ў Сойм БНФ як прадстаўнікі Беларускага жаночага руху «Адраджэнне Айчыны», які з'яўляецца адным з калектыўных сябраў Фронту. У жаночым руху — каля 2.000 жанчын.

Юлія Чыгір таксама не разумее Пазьняка: «Ён што, хоча, каб я падтрымлівала яго, а не свайго мужа?» Па словах Ю.Чыгір, яна старанна выканала свой франтаўскі абавязак: сабрала 30 подпісаў у падтрымку кандыдата ў прэзідэнты Пазьняка — дарэчы, першым за Пазьняка падпісаўся ягоны канкурэнт Міхаіл Чыгір.

Абедзве жанчыны выказваюць шкадаванне з нагоды, што БНФ вырашыў пазбавіцца ад іх — Фронту ад гэтага будзе толькі горш.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

***Новый посол России прибыл в Беларусь. Им стал Вячеслав Долгов.***

## Последний русский

Официальный Минск не скрывал своей радости относительно этого назначения. Во время церемонии вручения верительных грамот А.Лукашенко высказал надежду на то, что В.Долгов станет последним российским послом в Республике Беларусь, учитывая высокую интенсивность развития белорусско-русской интеграции. «Нам необходимо сделать все, чтобы мы были сильным, процветающим народом, братским народом, который населяет Россию и Беларусь», — заявил А.Лукашенко.

Долгов — человек, прошедший школу советской дипломатии. Он работал послом в Великобритании и Канаде, затем возглавлял дипломатическую миссию в Казахстане.

*Отдел информации*

СКАНДАЛ

# Вайна кандыдатаў

## *Чыгіра не пусцілі ў сядзібу БНФ*

**Напрыканцы мінулага тыдня кандыдат у прэзідэнты Міхаіл Чыгір правёў сустрэчу з актывістамі маладзёжных арганізацыяў, якую наладзіла Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў.**

Меркавалася, што перад гэтым М.Чыгір асобна сустрэнецца з прадстаўнікамі «Маладога фронту». Па іхняй просьбе, месцам сустрэчы было абранае памяшканне ўправы Беларускага Народнага Фронту.

Аднак ахова не прапусціла Чыгіра з суправаджальнікамі ў памяшканне. Ім патлумачылі, што гэтая сустрэча не ўзгодненая з кіраўніцтвам БНФ і таму адбыцца не можа.

*Таму такія паводзіны кіраўніцтва БНФ з'яўляюцца абуральнымі і абразлівымі. Такім чынам, у няёмкім становішчы апынулася перш за ўсё маладзёжная арганізацыя БНФ, і ў гэткае становішча яе загналі старэйшыя таварышы.*

*Атрымліваецца, што кіраўніцтва БНФ баіцца, калі іхняя моладзь пачуе іншую думку. І, што яшчэ больш небяспечна, тут праявілася поўная нецярпімасць да пазіцыяў, з якімі БНФ нязгодны. Зараз я канчаткова пераканаўся, што гэтых людзей нельга дапускаць да ўлады. У адносінах да дэмакратычных прынцыпаў, не выключаю, гэтыя людзі будуць горшымі за Лукашэнку».*



У выніку маладафронтаўцы накіраваліся на агульную сустрэчу, што арганізавала БАМП. Яны прынесьлі М.Чыгіру прабачэнні за недарэчную сітуацыю.

Яе пракаментавалі намеснік старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі і былы міністр унутраных справаў Юрый Захаранка, які суправаджаў былога прэм'ера на сустрэчы з моладдзю.

**Л.Баршчэўскі:** *«Гэтае мерапрыемства ў сядзібе БНФ не было запланаванае. Кіраўніцтва Фронту даведалася пра яго толькі напярэдадні ўвечары. Каб мы ведалі пра гэта хаця б тыдзень таму — магчыма, пытанне было б вырашанае. Хаця ў прынцыпе гэта вельмі дзіўна — дзе ж такое бывае, калі ў час перадвыбарчай кампаніі адзін кандыдат у прэзідэнты выступае на штаб-кватэры другога. Для падобных сустрэчаў у Мінску хапае больш прыдатных памяшканняў. Канкрэтна ў адносінах да Чыгіра ў нас ніякіх прэтэнзіяў няма. З прычыны немагчымасці сустрэчы мы выказалі яму шкадаванне».*

**Ю.Захаранка:** *«Сустрэча на штаб-кватэры БНФ зусім не была ініцыятываў Чыгіра: мянавіта туды яго запрасіў «Малады фронт», ён згадзіўся і прыехаў.*

Маладафронтаўцы звярнуліся да М.Чыгіра з просьбаю ўсё ж правесці з імі асобную сустрэчу. Чыгір згадзіўся, адзначыўшы, што «сустрэча пройдзе трохі пазней і не на тэрыторыі недружалюбнай арганізацыі».

У святле ўсяго гэтага пытанне «Ці прапануеце вы, у выпадку перамогі, пасады ва ўрадзе прадстаўнікам БНФ?» выклікала гучны смех удзельнікаў сустрэчы. Зрэшты, былы прэм'ер адказаў, што ў БНФ ёсць прыстойныя і падрыхтаваныя людзі, якія змогуць заняць высокія пасады.

Міхаіла Чыгіра папрасілі выказацца наконт абвінавачвання з боку другога кандыдата — Зянона Пазьняка — у тым, што канкурэнт на выбарах 16 траўня з'яўляецца «стаўленікам Масквы» і «агентам расійскіх спецслужбаў». М.Чыгір адказаў, што не хоча «крытыкаваць саперніка ў складаны момант, калі мы змагаемся супраць дыктатара».

Былы прэм'ер зазначыў, што яго неадназова называлі таксама «выкармак заходніх разведак», — і калі ягоная персона адпавядае інтарэсам і Захаду, і Расіі, дык можна толькі радавацца. «А ўвогуле я разумею, што, займаючыся палітыкай, практычна немагчыма пазбегнуць струменяў бруду», — падсумаваў (ці пасумаваў) Чыгір.

Пытанняў кандыдату ў прэзідэнты ўдзельнікі сустрэчы назадавалі шмат. Першымі крокамі Чыгіра на пасадзе прэзідэнта стане адыход ад міжнароднай ізаляцыі, паколькі цяпер Беларусь церпіць ад гэтага вялікія страты. Трэба, лічыць М.Чыгір, арыентавацца на Еўропу, але пры гэтым не рваць сувязяў з Расіяй. Былы прэм'ер абвясціў сябе прыхільнікам прыватнай уласнасці на зямлю: гэтая форма ўласнасці «існуе ва ўсім цывілізаваным свеце — і там няма праблемаў з яйкамі і маслам». М.Чыгір паабяцаў, што ягоная эканамічная праграма ў бліжэйшы час будзе апублікаваная.

У ваеннай сферы М.Чыгір выступае за прафесійнае войска ў Беларусі і выхад краіны з сістэмы калектыўнай бяспекі СНД.

У кандыдата ў прэзідэнты запыталіся, як ён ставіцца да меркавання многіх людзей, што Чыгір — толькі пераходная фігура. На гэта Чыгір адказаў, што ў выпадку, калі праводзімыя ім рэформы скончацца праваламі, ён будзе ініцыяваць датэрміновыя выбары прэзідэнта і пакіне пасаду. Калі ж справы пойдуць паспяхова, дык пераходную фігураю Чыгір быць не збіраецца.

Між тым, падчас сустрэчы з М.Чыгіром старшыня БАМП А.Лябедзька правёў бліц-апытанне наконт таго, ці маюць прысутныя намер удзельнічаць у бліжэйшых выбарах. У зале былі маладыя людзі з арганізацыяў рознай накіраванасці (Асацыяцыя студэнтаў-палітолагаў, «Грамадзянскі форум», ЛКСМБ, «Малады фронт», Хрысціянска-сацыяльны саюз і інш.). Простае падняцце рук паказала: пераважная большасць палітызаванай моладзі не пойдзе на лукашэнкаўскія выбары ў мясцовыя саветы 4 красавіка — але возьме ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах, прызначаных Вярхоўным Саветам на 16 траўня.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Зачакаліся волі

**Больш за 8 тысяч чалавек бралі ўдзел у святочным шэсці і мітынгу ў Мінску 28 сакавіка.**

У нядзелю ў сталіцы Беларусі апазіцыйныя сілы святкавалі Дзень Волі ў гонар 25 сакавіка 1918 года, калі была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка. Больш унушальнага мерапрыемства пад бел-чырвона-белымі сцягамі з пачатку вясны бадай што не было. Канешне, першая сапраўдная цеплыня спрыяла масавасці дэманстрацыі, аднак і прага сапраўднай волі ўсё больш відавочная.





Самы малады прамоўца мітынгу, маладафронтавец Аляксей Шыдлоўскі, упэўнены, што з 20 ліпеня ў Беларусі будзе новы прэзідэнт. Іншыя прамоўцы таксама былі ўпэўненыя, што бягучы год стане вырашальным для лёсу Беларусі. Барацьбу з рэжымам, які стане нелегітымным пасля 20 ліпеня, трэба праводзіць агульнымі намаганнямі.

У канцы мітынгу аднадушна была прынятая рэзалюцыя з асуджэннем планаў расійскага кіраўніцтва ўцягнуць Беларусь у канфлікт з Еўропай, размясціўшы на нашай тэрыторыі ядзерную зброю. Гэта была, магчыма, самая кароткая рэзалюцыя з усіх прынятых за 10 апошніх гадоў. Яе сэнс просты — размяшчэнне ў Беларусі ядзернай зброі будзе разглядацца як акупацыя з боку Расіі, а «пад нагамі акупантаў будзе гарэць зямля». У якасці доказу сур'ёзнасці гэтых папярэджанняў дэманстранты патапілі ў Свіслачы пудзіла ў выглядзе двухгаловага расійскага арла.

Улады адказалі на гэты «жэст» затрыманнем 13 падлеткаў, якіх абвінавацілі ў выкарыстанні не-дазволенай сімволікі. Паводле дадзеных БНФ, дзесяць непаўналетніх дэманстрантаў былі адпушчаны, яшчэ трое праседзелі да панядзелка ў ізалятары на Акрэсціна.

На вясну запланавана яшчэ некалькі акцыяў. 2 красавіка, абвясціў Анатоль Лябедзька, у Мінску пройдзе антыядзернае шэсце. 15-га, заявіў Сяргей Антончык, на акцыю пратэсту выйдуць рабочыя, чые патрабаванні аб павелічэнні заробкаў урад так і не пачуў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Крамольныя знакі на галоўнай магістралі

**Раніцай на шашы Брэст—Мінск з'явіліся незвычайныя дарожныя знакі.**

Невядомыя прымацавалі да асвятляльных слупоў на выездзе з Брэста перакрэсленыя выявы ядзернай ракеты, стылізаванай рускай свастыкі, а таксама шыльду з закрэсленым словам «лукашызм».

Такім чынам брэсцкія апазіцыянеры выказалі сваё стаўленне да магчымага размяшчэння ў Беларусі расійскай ядзернай зброі, з'яўленне ў краіне груповак РНЕ і г.д. Як не дзіўна, але на гэты раз мясцовая міліцыя была не надта кемлівай, і крамольныя знакі правіселі на аўтамагістралі аж да вечара.

**Язэп СІНІЦКІ**

## За былога прэм'ера ўжо «падпісаліся»

132 тысячы беларускіх грамадзянаў падпісаліся за Міхаіла Чыгіра. Гэтага цалкам дастаткова, каб былы прэм'ер быў зарэгістраваны Цэнтрвыбаркамам кандыдатам у прэзідэнты Беларусь. Па звестках НАВІНАЎ, за другога кандыдата Пазьняка падпісалася каля 120 тысяч.

У панядзелак Міхаіл Чыгір даваў прэс-канферэнцыю з нагоды завяршэння збору подпісаў. Ён сказаў журналістам, што цалкам задаволены працай сваіх паплечнікаў. *«Яны працавалі ва ўмовах жорсткага ўціску з боку ўладаў і з сваёй задачай справіліся»*, — заявіў Міхаіл Чыгір. Па ягоных словах, калі б не перасьлед, можна было б сабраць і 500 тысяч подпісаў. «Настроі выбаршчыкаў гэтаму спрыяюць», — сцвярджаў Чыгір. Асабліва ў Мінску і Мінскай вобласці — тут за былога прэм'ера падпісаліся адпаведна 69 і 17 тысяч чалавек. У астатніх абласцях — па 8—10 тысяч, што дэманструе даволі роўную падтрымку былога прэм'ера па ўсёй краіне. *«Шмат людзей разумее, што Беларусь пад кіраўніцтвам Лукашэнкі зайшла ў тупік, але многія яшчэ баяцца. Нашая мэта — дапамагчы пераадолець гэтыя страх»*, — заявіў Чыгір.

Як гэта зрабіць? Былы прэм'ер не супраць нетрадыцыйных выбараў. Каб там, дзе не будзе ўмоваў для стацыянарнага галасавання, арганізатары выбараў самі хадзілі па дамах і кватэрах выбаршчыкаў. Чыгір не выключае таксама, што такое галасаванне можа расцягнуцца на некалькі дзён, але *«галоўнае, каб яно адбылося, бо выбары здольны цалкам змяніць сітуацыю ў краіне»*, — упэўнены былы прэм'ер.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Лідэр Руху загінуў у аўтакатастрофе



Учора ў Кіеве прайшло пахаванне лідэра Народнага Руху Украіны Вячаслава Чарнавіла. Ён загінуў у аўтакатастрофе ў ноч з чацвярга на пятніцу.

Трагедыя адбылася прыкладна ў 23.30 на аўтатрасе Барыспаль — Залатаноша. Аўтамабіль *Toyota Corolla*, дзе знаходзіўся Вячаслаў Чарнавіл, сутыкнулася з «КамАЗам» з прычэпам. За рулём «КамАЗа», гружанага збожжам, быў кіроўца дзяржгаса імя Хмяльніцкага.

У выніку страшэннага сутыкнення Вячаслаў Чарнавіл і ягоны памочнік Яўген Паўлаў, які кіраваў машынай, загінулі, а кіраўнік прэс-цэнтра Руху Дзмітрый Панамарчук атрымаў цяжкія пашкоджанні.

Папярэдне следства ўстанавіла, што вінаваты ў аварыі быў кіроўца «КамАЗа» — ён праехаў патрэбны паварот і вырашыў развярнуцца на дарозе. Менавіта ў гэты момант у «КамАЗ» на высокай хуткасці ўрэзалася аўтамашына, дзе сядзеў Чарнавіл. Па словах прадстаўнікоў Руху, іх лідэр вяртаўся з Кіравагграда ў Кіеў.

Вячаслаў Чарнавіл нарадзіўся ў 1937 годзе ў Звянігарадскім раёне Кіеўскай вобласці ў сям'і сельскіх настаўнікаў. Па адукацыі журналіст. Працаваў на Львоўскім тэлебачанні, адкуль быў звольнены за ўдзел у праваабарончым руху. На Захадзе выйшлі ягоныя кнігі «Горе з розуму» (1966), «Правосуддзя або рэцыдиви терору» (1967). Каля 15 гадоў В.Чарнавіл правёў у турмах — за «антысавецкую агітацыю і прапаганду». Тры гады быў у ссылцы ў Якуціі. У красавіку 1990 года Вячаслаў Чарнавіл быў абраны старшынёй Львоўскага абласнога савета народных дэпутатаў. У 1991-м у якасці кандыдата ў прэзідэнты Украіны набраў 23,7 працэнта галасоў выбаршчыкаў. У красавіку 1992 года быў абраны сустаршынёй Народнага Руху Украіны.

Калі палітычны лідэр гіне не сваёй смерцю — у аўтакатастрофе, на адпачынку ці недзе яшчэ, адразу паўстае пытанне: а ці была выпадковай гэтая смерць? Тое самае адбылося і ў выпадку з Чарнавілам. Падазрэнні нават узмацняюцца — апошнім часам Вячаслаў Чарнавіл моцна канфліктаваў з сябрамі па партыі. Рух раскалоўся на дзве групоўкі — пасля таго, як ягоныя сябры фактычна адхілілі ад улады В.Чарнавіла і абралі сваім лідэрам Юрыя Кастэнку. З Чарнавілам, які да апошняга не прызнаваў новага лідэра, засталася меншасць рухаўцаў. Ю.Кастэнка падкрэсліваў глыбокія ідэалагічныя разыходжанні з В.Чарнавілам. Апроч іншага, парламенцкі кабінет В.Чарнавіла быў са скандалам перададзены прыхільнікам Кастэнкі.

Цяпер рухаўцы заяўляюць, што «пытанне пра раскол знятае з павесткі дня, Рух зноў аб'яднаецца і стане адзінай партыяй». В.Чарнавіл загінуў, і цяпер у «раскольнікаў» больш няма сапраўдных лідэраў. Юрый Кастэнка катэгарычна адмаўляе сувязь паміж трагедыяй і ўнутрыпартыйным расколам: «Маё сумленне тут чыстае».

А вось меркаванне блізкага сябра Чарнавіла Мустафы Джэмілёва: «У нас у партыі толькі ўсё пачало наладжвацца, у траўні мусіў адбыцца аб'яднальны з'езд... Магчыма, гэта і быў няшчасны выпадак, але у нас настолькі моцны крыміналітэт у краіне, што нельга нічога выключаць».

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Палякі адмаўляюць русіфікацыю

**У выніку сустрэчы кіраўніцтва Саюза палякаў Беларусі (СПБ) з прадстаўнікамі Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў, што прайшла напрыканцы мінулага тыдня, удалося дасягнуць кампрамісу.**

Нагадаем, што апошнім часам узаемаадносіны Саюза палякаў і беларускіх уладаў прыкметна абвастрыліся, што, на думку кіраўніцтва СПБ, выклікана палітыкай дзяржструктур, накіраванай на русіфікацыю палякаў, якія жывуць на Беларусі.

Як паведаміў БелаПАН старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін, сустрэча з кіраўнікамі Дзяржкамітэта «прайшла даволі жорстка», аднак бакі сышліся на думцы аб неабходнасці канструктыўнага супрацоўніцтва. У выніку дыскусіяў, адзначыў Т.Гавін, было дасягнутае разуменне таго, што праблемы палякаў, якія жывуць на Беларусі, накопліваліся гадамі і могуць быць вырашаны толькі шляхам развіцця дыялогу, а не працягам канфрантацыі.

*БелаПАН*

СПЕЦСЛУЖБЫ

# Оригиналы из КГБ

**Комитет государственной безопасности Беларуси 27 марта принял заявление, в котором осудил военные операции НАТО, направленные против Союзной Республики Югославия.**

Белорусские чекисты ошарашили своих коллег из ЦРУ, МИ-5 и других спецслужб мира, не догадавшихся принять заявления в поддержку своих правительств. Следуя этой логике, получается, что руководство стран *НАТО* не может рассчитывать на помощь своих спецслужб в проведении операции на Балканах. Белорусское руководство может пока спать спокойно — ведомство генерала Мацкевича в очередной раз подтвердило, что пока поддерживает политику президента. Только зачем кричать об этом на весь мир?

ЧУТКІ

Звесткі пра тое, што падпісаны загад аб арышце Міхаіла Чыгіра, ужо некалькі дзён палохаюць прыхільнікаў былога прэм'ера. Згодна з чуткамі, Чыгіра павінны былі затрымаць яшчэ ў нядзелю. У панядзелак нікім не арыштаваны Міхаіл Чыгір сказаў на гэта наступнае: *«Хутчэй за ўсё гэтай дэзінфармацыяй мяне хочуць прымусіць з'ехаць з краіны і вырашыць праблему выбараў на карысць Лукашэнкі. Не атрымаецца. Не дачакаюцца».*

Сёння ў мінскай міліцыі павінна дабавіцца працы. Невядомыя маладыя патрыёты планавалі правесці ў ноч з панядзелка на аўторак акцыю па вывешванні бел-чырвона-белых сцягоў на будынках цэнтральных вуліцаў горада. Акцыю меркавалася прысвяціць маючым адбыцца 16 траўня выбарам прэзідэнта і надаць ёй назву: «Пазьняк — наш прэзідэнт». Ад ранейшых яна адрозніваліся тым, што да сцягоў былі прымацаваны партрэты лідэра БНФ у эміграцыі. Праверыць праўдзівасць інфармацыі чытачы, якія жывуць у цэнтры горада, могуць проста выглянуўшы ў акно сваёй кватэры.

# АМАП дубінкай вучыў балець

**Больш дзесяці ўдзельнікаў апазіцыйнай акцыі «На наш футбол, з нашым сцягам» было схоплена міліцыяй у суботу на матчы зборных Беларусі і Швейцарыі за выкарыстанне «незарэгістраванай сімволікі».**

Напярэдадні матча ўлады прынялі небачаныя дагэтуль меры асцярогі. У ахове стадыёна ўдзельнічала вялікая колькасць салдатаў унутраных войскаў і міліцыі, а на цэнтральную трыбуну білеты размяркоўвалі толькі па прадпрыемствах і арганізацыях. Не выключана, што падобным чынам улады вырашылі не дапусціць знаходжання ў цэнтральных сектарах стадыёна непажаданай публікі, кшталту апазіцыянераў з нацыянальнымі сцягамі. Справа ў тым, што на матчы прысутнічала вялікая група высокапастаўленых футбольных аматараў з прэзідэнцкай адміністрацыі на чале з балельшчыкам № 1 — Аляксандрам Лукашэнкам, а іх урадавая ложа знаходзіцца якраз у цэнтры стадыёна.

Тым не менш апазіцыянеры размясціліся ў розных месцах сп'артовай арэны і на працягу ўсяго першага тайма ўзнімалі над трыбунамі бел-чырвона-белыя сцягі. Міліцыя і АМАП адразу ж кінуліся знішчаць «крамолу» і затрымліваць сцяганосцаў. Па словах відавочцаў, у некалькіх месцах стадыёна балельшчыкі нават завязалі бойкі з ахоўнікамі парадку, якія спрабавалі канфіскаваць забароненую атрыбутыку. Прычым міліцыянтаў раздражнялі толькі балельшчыкі з нацыянальнымі сцягамі, усе іншыя, якія выкарыстоўвалі на стадыёне такую экзатычную і незарэгістраваную сімволіку, як сцягі СССР, БССР ці, напрыклад, савецкай Эстоніі(!?), ахоўнікаў парадку не цікавілі. Часамі міліцыя паводзіла сябе проста па-бандыцку. Затрыманых апазіцыянераў яны моцна збівалі і выкідвалі за стадыённую агароджу. Відаць, у міліцыянтаў на гэты раз было ўказанне толькі памяць апазіцыянерам бакі, таму ў пастарунку іх не дастаўлялі.

А пасля заканчэння матча расчараваныя паразай зборнай Беларусі і разагрэтыя алкаголем падлеткі білі шкло ў кіёсках, а таксама хуліганілі на станцыях і ў цягніках метро. Міліцыі побач заўважана не было.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# «Беларусь сёння» – па-англійску

**На мінулым тыдні ў шапіках «Белсаюздруку» з'явілася новае выданне — англамоўная газета *Belarus' Today* («Беларусь сёння»).**

Тым не менш лічыць абсалютна новай газету нельга — да апошняга часу яна выходзіла пад назвай *Minsk News* («Мінскія навіны»).

Як паведаміў нам галоўны рэдактар выдання Юрый Будзько, *Belarus' Today* арыентаваная перш за ўсё на замежнага чытача, які цікавіцца падзеямі ў Беларусі. Па словах Ю.Будзько, ён распачаў буйны Інтэрнэтаўскі праект, мэта якога — размяшчаць у «сусветнай павуціне» максімальна поўную інфармацыю пра нашую краіну. Газета з'яўляецца часткай гэтага праекта.

Плануецца, што *Belarus' Today* будзе выходзіць штотыдзень. Пакуль да 40% інфармацыі — гэта перадрукі з беларускіх грамадска-палітычных выданняў, аднак у бліжэйшы час галоўны рэдактар спадзяецца сфармаваць сваю каманду журналістаў.

Па словах Ю.Будзько, ягоную газету «вельмі ўважліва» чытаюць у амбасадах і прадстаўніцтвах замежных арганізацыяў у Беларусі, цікавяцца ёю і турысты з іншых краінаў. Апроч таго, сярод чытачоў *Belarus' Today* — студэнты, якія вывучаюць англійскую мову.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Ваўкалак у пагонах

**Маёр міліцыі ўзяў 1.700 долараў хабару.**

24 сакавіка супрацоўнікі ўпраўлення КДБ па г.Мінску і Мінскай вобласці разам з службай уласнай бяспекі УУС Мінаблвыканкама затрымалі з доказамі пры атрыманні хабару ў памеры 1.700 долараў ЗША выконваючага абавязкі начальніка аддзела крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС маёра міліцыі Аляксандра Журу.

Пярэварацень у пагонах патрабаваў 3.500 долараў у дырэктара адной з камерцыйных фірмаў за спыненне аператыўных мерапрыемстваў, якія нібыта супраць яго вяліся. Маёр міліцыі разлічваў атрымаць усю суму ў два прыёмы, але быў затрыманы з доказамі апаратыўна-следчай групай. Пры затрыманні А.Жура спрабаваў аказаць супраціўленне супрацоўнікам органаў дзяржбяспекі. Упраўленне КДБ па г.Мінску і Мінскай вобласці ўзбудзіла крымінальную справу па арт.169 КК (атрыманне хабару). Падазраваемы зараз знаходзіцца ў следчым ізалятары КДБ, вядзецца расследаванне.

*Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ*

# Міліцыя знайшла «наркатычныя прытоны апазіцыі» ў Магілёве

**Магілёўская міліцыя знайшла новы сродак барацьбы з апазіцыяй.**

Цяпер прадстаўнікоў апазіцыйных партыяў затрымліваюць па падазрэнні ў правозе ці захоўванні наркотыкаў. У канцы мінулага тыдня амаль дзесятак сябраў магілёўскіх аддзяленняў БНФ, сацыял-дэмакратычнай партыі, Свабоднага прафсаюза пабывалі ў міліцыі менавіта па гэтых «наркатычных» матывах.

Першым за наркотыкі патрапіў да міліцыянтаў кіраўнік Магілёўскай абласной арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Алесь Сердзюкоў. Яго знялі ў 7-00 з аўтобуса, што накіроўваўся ў Мінск. Некалькі супрацоўнікаў міліцыі на чале з кіраўніком крымінальнага вышуку абласнога ўпраўлення ўнутраных справаў Карпавым затрымалі партыйнага лідэра. Яму людзі ў пагонах паведамілі, што ёсць звесткі, нібыта Сердзюкоў наркакур'ер і вязе гераін. У памяшканні Ленінскага РАУС у Сердзюкова дагледзелі ягоныя рэчы і забралі падпісныя лісты за Чыгіра і Пазьняка. Наркотыкаў, натуральна, ніхто і не чакаў. Пратакол склалі стандартны — аб парушэннях выбарчага заканадаўства.

У суботу група амапаўцаў на чале з тым жа падпалкоўнікам Карпавым уварвалася ў прыватную кватэру, дзе ў гэты час знаходзіліся сябры выбарчых камісіяў і ініцыятыўных групаў. Міліцыя не мела ніякай санкцыі ад пракурора, а спасылалася на сігналы суседзяў: маўляў, у гэтым памяшканні хаваюць і гандлююць наркотыкамі. Зноў перагрус, зноў пра наркотыкі ніхто больш не ўзгадваў. Канфіскоўвалі выбарчыя дакументы: падпісныя лісты, пячаткі выбарчых камісіяў. Затрымалі падчас гэтага налёту на «наркатычны прытон апазіцыі» 6 чалавек, у тым ліку старшыню абласной выбарчай камісіі Уладзіміра Шарапава. Пратаколы ў парушэнні выбарчага заканадаўства былі складзеныя стандартныя. А суды па розных затрыманых пройдуць на працягу ўсяго тыдня.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

КОСОВО

# В ожидании бомбежки

Ветон СУРРОЙ

*Ветон Суррой был членом мирной делегации Косово в Париже и является главным редактором лидирующей независимой газеты Косово «Когха Диторе».*

ПРИШТИНА: Война отвратительна. Я понял это не сегодня, когда Косово ждет бомбы *NATO*. Впервые я осознал это, когда я увидел лица беженцев войн бывшей Югославии. Я был на борту последнего самолета из Хорватии перед тем, как там разразилась война, и хотя у меня был билет, я оказался в очереди на посадку. Мужчины расталкивали женщин и детей, пробиваясь на борт самолета. Каждый хотел убежать от войны — даже если это означало занять место безымянных женщин и детей.

Я пишу в своем офисе в Приштине, буквально за несколько часов до того, как бомбы *NATO* ударят по сербским позициям. Сегодняшняя война ничем не лучше войны в Загребе. Я знаю, что бои (скорее, бойня) закончатся здесь быстрее, чем я думал, потому что военная машина Милошевича впервые столкнулась с гораздо более сильным противником — союзом *NATO*. Я знаю, что одним из результатов предстоящей воздушной атаки будет разрушение военной машины Милошевича, в том смысле, что она никогда не поднимется вновь, как машинное производство в Сербии в этом веке.

Я также знаю, что само по себе это может изменить отношение народов Балканов к войне; мы в Юго-Восточной Европе столкнемся с тем фактом, что *NATO* создало для них «зонт безопасности». Войны прошлых веков, а в особенности кровавая этническая чистка прошедшей декады завершится.

Учитывая применяемые технологии, война может завершиться за считанные недели и может принести нашему обществу огромную перемену. Как представитель Косово на последних переговорах во Франции, я подписал соглашение, которое предоставляет Косово три года самоуправления под гарантией *NATO* и дает возможность народу Косово определить свой будущий статус по окончании этого промежуточного периода. У *NATO* достаточно власти, чтобы ввести это соглашение в действие.

Что беспокоит меня, так это то, что такого рода политические соглашения ждут войны, чтобы появиться на свет и воплотиться в жизнь. Печально признавать, но только военное кровопролитие способно скрепить подобные дипломатические сделки. Необходимость в освобождении Косово из-под власти Милошевича была очевидна на протяжении всего десятилетия. Два миллиона человек в Косово



страдали от режима Милошевича во всех отношениях — начиная с простой безопасности и заканчивая образованием. Годами они пытались выразить это мирным путем.

именно потому, что Косово не бралось за оружие. Реакция Больших сил последовала только после того, как со стороны Косово раздались первые выстрелы. Как это уже показала Дайтона несколько коротких лет назад, проблему начинают решать, только когда она становиться вооруженной.

И все же, несмотря на опыт Боснии, Косово не привлекало внимание мировых лидеров, пока не разрослось насилие. Нет необходимости объяснять, что заставляло женщин и детей бежать из своих деревень на тракторах — существовала злая сила, от которой они убегали. Еще один урок: проблему считают серьезной, только когда ей предшествовал подобный прецедент. (Было бы трудно не представлять самого худшего, узнав о случаях племенной бойни в Африке, подобным событиям в Руанде).

будут разбиты самолетами *NATO*. Когда бы я ни пошел домой, если я пойду домой, я буду абсолютно не защищен, так же как и все мои соотечественники, у которых нет оружия.

Три дня назад я был заграницей и не испытывал недостатка в приглашениях продолжить мою поездку, но я решил пережить этот исторический момент здесь. Подписав мирное соглашение в Париже на прошлой неделе, я автоматически согласился и с тем, что это соглашение может привести к негативным последствиям для народа Косово. Если сербская сторона не согласилась бы с этим соглашением, оно было бы реализовано силой, и эта акция конечно же поставит в опасность мирное население.

Действительно, с тех пор, как мы подписали соглашение, появилось больше 30.000 новых беженцев. Бог знает, сколько мирных жителей пострадает в предстоящие дни. Принимая ответственность за свою подпись, я думаю, что единственно верное решение для меня — это быть здесь в эти критические дни, пытаясь расширить список доказательств, объясняющих, почему война отвратительна.



*Сербские войска на позициях*

Как политический активист последних дней Югославии, я пытался поддержать философию ненасилия, организовывая демонстрации и действуя другими методами мирного выражения протеста. Но те, кто принимал решения в бывшей Югославии, презирали такие методы. Они не занимались Косово

Итак, я сижу в ожидании разрешения проблем Косово с помощью оружия, оружия более мощного, чем у Милошевича. В отличие от Боснии, в следующие несколько часов все будет происходить на линии фронта, прочерченной в воздухе. Сербские силы, расположенные прямо возле моего офиса, возможно

*© Project Syndicate, March 1999*




# История войны

**Косовский конфликт — один из компонентов гремучей балканской смеси, грозящей нарушить шаткое европейское равновесие. Враждующие стороны — сербы и этнические албанцы, составляющие в настоящий момент национальное большинство на территории Косово.**

Средневековое Косово было частью сербского королевства. Албанцы там жили, но были в меньшинстве. После битвы на Косовом поле сербской и турецкой армий в 1389 году Косово отошло к Турции. После поражения сербы начали покидать Косово. Оттоманская империя приветствовала ее заселение единоверцами-албанцами. К 1912 году, когда Сербия вновь завоевала Косово в Первой Балканской войне, албанцы были там подавляющим большинством населения.

В 1943 г. Косово было окуппировано немцами, которые всячески поддерживали сепаратистские тенденции албанцев. Присоединению Косово к Албании помешала Советская Армия, чья победа привела к установлению в Югославии коммунистического режима во главе с Й.Тито. Он продолжал политику «сербизации» Косово, но все же в 1974 г. край получил автономию в составе Югославской Федерации.

Помимо общего политического неблагополучия край Косово страдал от экономического запустения. В 45-ом году он был беднейшей областью Европы. Экономическая запущенность способствовала усилению антиюгославских настроений.

В 1987 г. Слободан Милошевич стал сербским президентом. А уже в 1988 г. с его подачи была принята новая конституция, которая ликвидировала широкую косовскую автономию. В ответ на этот шаг в Косово было создано «параллельное правительство». Оно приняло собственную конституцию и объявило о непризнании сербского руководства. Президентом косовского правительства стал писатель и политик Ибрагим Ругова. Ругова делал ставку на ненасильственную борьбу, надеясь на помощь Запада.

В 1989 г. Милошевич перешел к активным действиям: в Косово начались массовые аресты, вызвавшие вооруженные столкновения. «Параллельное правительство» Руговы от решения межнационального конфликта было практически отстранено — его вообще никак не замечали. Международному сообществу независимое государство Косово с его проалбанскими устремлениями было ни к чему.

В июне 1996 г. в Косово была создана Армия Освобождения Косово. Бойцы АОК начали атаки на сербские полицейские патрули и военных. Практиковались также убийства сербских мирных жителей и албанцев, заподозренных в сотрудничестве с властями. Достичь освобождения посредством сугубо террористической деятельности — задача невыполнимая, но АОК преследовала и политические цели — привлечь международное внимание к косовскому конфликту. Эту цель они достигли. К тому же сепаратисты начали получать военную помощь со стороны Албании, что фактически стало началом открытого военного конфликта.

После переговоров между Милошевичем и руководством Движения за освобождение Косово в октябре 1998 г. было достигнуто соглашение о прекращении огня. Соглашение нарушалось уже с тех пор неоднократно. Сербская и албанская позиции на переговорах слишком далеки от достижения какого-либо приемлемого соглашения. Косовское руководство было бы согласно вернуться к автономии, гарантированной конституцией 74-го года, но это не устраивает Милошевича — пользуясь подобными правами, Косово неминуемо «сбежит» к Албании на вполне законном основании, а как раз этого сербский президент пытается не допустить на протяжении 12 последних лет.

Демография Косово такова, что удержать его сербы в сложившейся ситуации могут либо силой, либо большими деньгами, которых у них нет. В 1912 году, после возвращения Косово, сербское население в нем составляло 40%. К 1991 году сербы составляли менее 10%. Тому есть несколько причин, из которых наиболее существенными представляются две: во-первых, экономическое положение района побуждало сербов мигрировать в «свой» центр, а во-вторых, албанская семья имеет в среднем семерых детей. Как говорится, комментарии излишни.

А.Н.

# У Беларусі прадухілялі Апакаліпсіс

**Адносіны беларускіх уладаў з краінамі Захаду сапсаваныя настолькі, што далей няма куды, вычарпаны ўвесь патэнцыял. На агрэсію ў Югаславіі Беларусь адрэагавала толькі заявамі.**

У прэс-службе міністэрства замежных справаў сказалі, што наша краіна не адклікала свайго прадстаўніка з *NATO* Уладзіміра Лабунова, не спыніла стасункі з альянсам у рамках праграмы «Партнёрства дзеля міру», якія і без таго надта вялыя, а міністр замежных справаў Урал Латыпаў не адмовіўся ад запрашэння прыняць удзел у святкаванні 50-гадовага юбілею *NATO*.

Ваенную аперацыю ў Югаславіі прэзідэнт Лукашэнка скарыстаў для чарговай порцыі антызаходняй істэрыі.

У затопленых паводкай раёнах ён выкрываў «агрэсію, блізкую да фашызму», і пагражаў занняцца сваім войскам, каб «нас на калені не паставілі». Прэзідэнт надта ўпэўнены, што «наступнымі будзем мы». Раней ён абяцаў ваенную дапамогу Югаславіі, але цяпер настойвае на ўзгадненні гэтага пытання з Расіяй «у строгай адпаведнасці з міжнароднымі нормамі».

Намаганні беларускіх дыпламатаў ва ўрэгуляванні балканскага крызісу пацярпелі фіяска. У Савеце Бяспекі ААН пазіцыю Расіі наша краіна падтрымала разам з Кітаем, Індыяй і Намібіяй. У Азіі супраць «агрэсіі» *NATO* выступілі па традыцыі Ірак, Іран і В'етнам, а ў Лацінскай Амерыцы — Мексіка і Калумбія. Беларусь апынулася ў звычайнай для сябе кампаніі.

На саміце міністраў абароны краінаў СНД беларускі міністр Аляксандр Чумакоў запрапанаваў асудзіць натаўскую аперацыю. Але і тут не атрымалася поўнай перамогі. На саміт прыехалі толькі шэсць міністраў абароны, якія прынялі асуджальную заяву. Тым часам Азербайджан выказаўся за паглыбленне супрацоўніцтва з *NATO* і запрапанаваў накіраваць у Косава спецыяльны ўзвод азербайджанскай арміі ў складзе турэцкіх сілаў. Не спяшаецца і Грузія. Дарадца яе прэзідэнта лічыць неабходным правядзенне «апэрацыяў, якія прымушаюць да міру».

Чарговае паражэнне чакала беларускіх «пажарнікаў», якія ўзяліся гасіць Косаўскі пажар, у Вене — на пашыраным паседжанні Пастаяннага савета АБСЕ. Беларуская дэлегацыя лабіравала там расійскую пазіцыю, якая ўрэшце была заблакаваная.

Для абароны рэжыму Мілошавіча, які гэтак жа перасварыўся з усім светам, як і Лукашэнка, засталася толькі прапаганда. Афіцыйная прэса яўна згушчала фарбы, маўляў, «усяго некалькі хвілінаў аддзяляе нас ад Апакаліпсіса». Каб гэты апакаліпсіс не здарыўся, іншая афіцыйная газета заклікала байкатаваць амерыканскія тавары, зняць вывескі на англійскай мове, выключыць з радыё і тэлебачання англамоўную музыку. (Тым не менш колькасць наведвальнікаў амерыканскіх рэстаранаў «Макдональдс» у Мінску яўна не паменшылася.) Яшчэ адна дзяржаўная газета запрапанавала А.Лукашэнку «прыняць меры супраць прахозадніх і праамерыканскіх палітычных сілаў у нашай рэспубліцы». Фактычна, пад кананаду ў Косаве прэзідэнт хочуць развязаць рукі, заклікаючы ўзмацніць рэпрэсіі супраць іншадумцаў. Натуральна, што і прызначаныя на травень прэзідэнцкія выбары будуць паднесеныя публіцы як «агрэсія» Захаду.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

# Нонканфарміст

310 гадоў назад 30 сакавіка на плошчы Старога Мяста ў Варшаве на радасць натоўпу фанатыкаў сякера дзяржаўнага ката Рэчы Паспалітай знесла галаву брэсцкаму падсудку Казіміру Лышчынскаму. Цела яго спалілі на вогнішчы, попелам зарадзілі гармату — і душу «монстра з Брэстчыны», як называла яго царква, адправілі ў пекла. Гэтакае рэдкаснае смяротнае пакаранне Лышчынскаму вынес сеймавы суд за твор «Аб неіснаванні бога» і адкрытыя атэістычныя выказванні.

Аднак гарматны стрэл вынес Лышчынскага ў шэраг самых выдатных постацяў еўрапейскай навуковай думкі, забяспечыў яму вечную памяць як ахвяры інквізіцыі, а галоўнае, вечную ўвагу да ягонай асобы. Лышчынскаму прысвечана болей за 1.000 даследаванняў і мастацкіх твораў, яго імя ўвайшло ў школьныя падручнікі гісторыі. Таму не мае сэнсу пераказваць яго біяграфію, хто не ведае — лёгка знойдзе артыкулы, апавяданні, аповесці пра жыццё мысліцеля. Не варта разглядаць тут і яго атэістычныя погляды і сістэму яго навуковых абгрунтаванняў галоўнай тэзы — Бог створаны людзьмі.

Спрэчкі паміж атэістамі і вернікамі царквы бессэнсоўны, бо ніхто не ведае ісціны. Ёсць неаспрэчны факт, што ўсё жывое (ды і нежывое) нейкім чынам узнікла, абсягі космасу не маюць межаў, даступных нашаму малому розуму. Загадку стварэння свету адны называюць Богам і моляцца Творцу, другія, не ведаючы разгадкі, ацэньваюць рэлігійныя малюнкі нябеснага жыцця як плён не надта таленавітай фантазіі, не ведаюць, ці варта дасылаць малітву, не ўяўляючы каму.

Сённяшняя псіхіятрыя, даследуючы рэлігійныя патрэбы чалавека, наогул лічыць іх лёгкім адхіленнем ад нормы (з пункту гледжання медыцыны — праявай шызафрэнічнага кшталту, адлюстраваннем нашай боязі перад смерцю), аднак, за выключэннем фанатычных груповак, сацыяльна бяспечным. У гэтым сэнсе ўсе, хто верыць у існаванне Бога, анёлаў, раю і пекла і да т. п., так мовіць, крыху адхіленыя ад нормы.



Царква, задавальваючы гэтыя патрэбы, трымаецца на веры, стварае адпаведныя рытуалы, здзяйсняе неабходнае ёй ідэалагічнае выхаванне. У гэтай якасці дзяржава (усе дзяржавы) падтрымоўваюць царкву (кожная свае цэрквы), бо ўсталяваны рытуал спрыяе сацыяльнаму парадку і дысцыпліне.

Разбурэнне рытуалу (і адпаведна — веры) разбурае сацыяльную дысцыпліну, ставячы мэтай вызваленне ад тых інстытуцыяў (гэта значыць, ад жывых людзей, што здзяйсняюць пэўныя функцыі), якія жадаюць ад простага чалавека канфармізму (быць як усе). Бальшыня людзей вымушана ці жадае быць як усе. Шмат людзей не маюць ведаў, сілы духу і жадання вылучыцца ў нядазволеным (светапогляд, адносіны да ўладаў і г. д.). Але ахвотна вылучаюцца ў дазволеным уладамі (мода, кар'ера, вайна, праца).

Лышчынскі вылучыўся ў самым недазволеным, а калі больш дакладна — у забароненым, ён надпільваў галоўнае ідэалагічнае апірышча тагачаснай улады. Ён быў не проста дысідэнт (іншадумец). Лышчынскі выступіў як нонканфарміст у пытаннях веры, сацыяльнага ўладкавання грамадства.

Нават сёння, калі квітнеюць навукі, а вынікі мноства даследаванняў неаспрэчна даказваюць эвалюцыйнае паходжанне жыцця на Зямлі і адсоўваюць таямніцу паходжання Свету ў непраглядную і недаступную чалавеку далечыню, адраджэнне царквы ў Беларусі, абуджэнне сярэднявечных прымхаў разглядаецца мноствам людзей як свята вызвалення ад атэізму. Безумоўна, для іх Лышчынскі такая ж непрымальная і надобрая асоба, якой мысліцель быў для біскупаў у 1689 годзе.

Аднак, людзі, якія асвяцілі нонканфармізм сваёй пакутніцкай смерцю, — святыя, дастойныя глыбокай пашаны, не меншай, чым тыя, хто патрапіў на царкоўныя абразы і перад кім запаляюць свечку, просячы дапамогі. Гэтыя людзі намагаліся паказаць сваім сучаснікам выйсце з цемры, скінуць прыгнёт канфармізму, створаны тымі, хто трымае ўладу. Канфармізм тысячаў людзей дазваляе ўладарным адзінкам здзяйсняць свой дыктат над грамадствам, маніпуляваць іхнімі жыццямі ды інтарэсамі. Таму, хто не хоча, на радасць уладам, «быць як усе» рахманым, можа ўзгадаць сёння пра нашага земляка, мужнага мысліцеля Казіміра Лышчынскага, які жадаў, каб дух чалавечы быў вызвалены да самастойнай творчасці.

**Ю.М.**

## БЛАГОСОСТОЯНИЕ

# Зеркало заработков

Польша вступила на путь рыночных реформ одновременно с Беларусью. Стартовая позиция была одинаковая. Развал здесь, разруха там. Поляки провели радикальные рыночные реформы, мы вновь строим социализм.

Сведения о заработках в Польше взяты из сводных таблиц, опубликованных в «*Gazecie Wyborczej*», сведения о заработках белорусов получены путем опроса граждан, организаций и учреждений.

| Профессия | Среднемесячная зарплата Польша | Среднемесячная зарплата Беларусь |
|---|---|---|
| фабричная швея | 215-230 | 30-40 |
| заводской рабочий | 200-450 | 35-40 |
| строитель | 185-350 | 30-35 |
| электромонтер | 150-550 | 35-40 |
| водитель на предпр. | от 190 | 24-29 |
| таксист | 500 | 25-30 |
| механик на предпр. | до 500 | 25-30 |
| инженер | 200-500 | 25-33 |
| сторож | 155 | 12-15 |
| уборщица | 155 | 12-15 |
| санитар | 220 | 11-13 |
| полицейский | от 250 | 50-55 |
| повар | от 170 | 15-20 |
| продавец | 160-250 | 17-25 |
| кассир | 160-250 | 13-20 |
| бухгалтер | от 150 | 20-30 |
| преподаватель | 170-290 | 17-22 |
| библиотекарь | 195 | 13-16 |
| врач | 200-500 | 20-23 |
| медсестра | от 160 | 10-20 |
| актер | 150-350 | 15-25 |



**НАВІНЫ**
Тэл. 210-02-54 ф. 236-89-40
Пэйдж. 211-85-85 аб. 353
**ИКП «ИНДАР»**
Тэл. 266-36-36 ф. 266-13-43
Вул.Кнорына-1, корп.3, оф.32

**Кошты рэкламнай плошчы**
на першай паласе — **200 000** руб./см²
на асобнай паласе — **150 000** руб./см²
у рэкламным блоку — **100 000** руб./см²
у TV праграме — **150 000** руб./см²
на апошняй паласе — **150 000** руб./см²
прыватныя аб'явы — **160 000** руб. за радок (20 зн.)

# Белый Дом взломали хакеры

**Иван БАБИЧЕВ**

В ночь с субботы на воскресенье вышел из строя сервер Белого Дома по адресу *www.whitehouse.gov*. Причиной падения этого сервера была атака Союза хакеров России, вызванная негодованием по поводу натовских бомбежек Югославии.

Примечательно, что доступным после отключения *whitehouse.gov* оставался малоизвестный широкой публике «резервный» сервер Белого дома по адресу *www.whitehouse.net*. Однако через несколько часов взломали и его. Затем, с интервалом в сутки, был «убит» почтовый «автоответчик» президента США, поддерживаемый на сервере *storm.eop.gov*. Таким образом, впервые в истории Интернета были взломаны одни из самых защищенных серверов. Сделали это русские хакеры.

Физически взлом серверов означает, что до момента написания данного материала (10 часов утра по минскому времени 29 марта) *www.whitehouse.gov* не отвечает на запросы вообще, а на *www.whitehouse.net* происходят совершенно замечательные преобразования.

Титульная страница с изображением собственно Белого дома и так называемых «иконок» для навигации по серверу подверглась изменениям. Теперь вместо тех или иных строгих «иконок», которые ведут в разделы типа «Расписание работы Белого дома» или «Отчеты на частые вопросы» появляются совершенно легкомысленные картинки. Дальнейшее нажатие на них мышкой выкидывает то на веб-сайт небезызвестной Полы Джонс, то на сайт компании, резервирующей места на Арлингтонском кладбище. Фото Билла Клинтона и его жену поменяли местами — теперь Хиллари Клинтон значится как «президент США», а Билл Клинтон стал «первым мужчиной Белого дома».

Личная страничка президента Клинтона, которая является частью сервера, также подверглась изменению. При входе на нее висит предупреждение о том, что детям до 18 лет вход воспрещен, принятое для веб-страниц неприличного содержания. Хакеры поменяли фото президента, снабдили страницу рекламными баннерами порнографических сайтов и надписью: «Белый дом — не дешевый отель!» Другая страница сайта изрисована фривольными зайчиками и надписью: «Извращенец! Извращенец! Извращенец! Ты должен стыдиться!» Об интимных похождениях Клинтона напоминают и другие «мелочи» типа обнаженных красоток.




*Так выглядят сайты взломанных кампаний*

Хватает и оскорблений в адреса американцев как нации — одна реклама «Макдональдса» чего стоит.

Немного раньше, днем 27 марта группа, называющая себя *Russian Hackers Union*, совершила атаку против нескольких американских серверов *WWW*, заменив их титульные страницы полуграмотными протестами на английском языке против операции *NATO* на Балканах. Среди взломанных сайтов — медицинская библиотека, домашняя страница колледжа *Orange Coast* в Калифорнии, фирмы медицинского оборудования, южнокалифорнийской федерации по водному поло и нескольких других учреждений. Ни одна из пострадавших структур не имеет отношения к военным операциям *NATO* на территории Югославии. Сервера были отобраны по техническим параметрам, которые позволили хакерам нащупать брешь в их защите.

История шовинистических настроений, захлестнувшая российские средства массовой информации, перекинулась и на Интернет. В продолжающемся опросе на авторитетнейшем российском сервере по вопросам защиты от хакеров сервере *HackZone* «Как бы вы отнеслись к предложению участвовать в атаке на информационные структуры *NATO*?» 85% респондентов заявляют о готовности участвовать в подобных атаках.

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by ; naviny@hotmail.com http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3)
Заказ 527 Нумар падпісаны ў друк 28/03/99 (15:00) Наклад — 17.440 Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.